# СЛОНІМСКІ КРАЙ



№ 5, чэрвень 2016

Краязнаўчы бюлетэнь

## Мілавідская бітва 1863 года



*Мемарыяльная капліца на месцы Мілавідскай бітвы*

3 чэрвеня (22 траўня па ст.ст.) 1863 года каля вёскі Мілавіды Слонімскага павета адбылася самая вядомая бітва паўстання 1863-1864 гадоў у Беларусі. Гэта быў адзін з тых рэдкіх эпізодаў гераічнага змагання, у якім паўстанцы святкавалі перамогу. На жаль, яго наступствы не былі выкарыстаныя належным чынам.

*Працяг чытайце на с. 2*

## Слонімскую сінагогуператвораць у музей?

Як паведамляе афіцыйны сайт Слонімскага райвыканкама, у пачатку траўня дэлегацыя раёна наведала з двухдзённым візітам Ізраіль. Галоўнай мэтай сустрэчы з замежнымі партнёрамі былі перамовы пра пачатак сумесных рэстаўрацыйна-аднаўленчых прац у сінагозе ў цэнтры горада на Савецкай вуліцы.

Па выніках візіту, старшыня слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі паведаміў, што пасля рэстаўрацыі ў Слонімскай сінагозе размесціцца музей яўрэйскай культуры.

*Працяг чытайце на с. 6*



*Слонімская сінагога. Фота 1930-х гадоў*

# Мілавідская бітва 1863 года



*Бой паўстанцаў з царскімі войскамі. Тагачасная гравюра*

У студзені 1863 года на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай пачалося паўстанне, вышэйшай кропкай якога на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца Мілавідская бітва.

У канцы траўня 1863 года на мяжы Гродзенскай і Мінскай губерняў каля вёскі Мілавіды пачалі збірацца паўстанцкія атрады з мэтаю каардынацыі сумесных дзеянняў. Тут размясціўся лагер слонімскага атрада на чале з Францішкам Юндзілам, які ўвесь час павялічваўся, у выніку дасягнуўшы 311 чалавек. Гэта былі ў асноўным сяляне: з адной толькі вёскі Плаўскія іх налічвалася 62 добраахвотнікі.

Расійскі палкоўнік Аляксандр Гейнс, які змагаўся супраць паўстанцаў у бітвах пад Коцкам, пры Калішы і Семяцічах, у асабістым лісце да свайго сябры Канстанціна Каўфмана, аднаго з наступнікаў Міхаіла Мураўёва на чале «Паўночна-Заходняга края» Імперыі, запісаў: афіцыйныя данясенні замоўчваюць факты "упорного равнодушия к нам крестьян во все время борьбы" і "это недоверие шло так далеко, что, не в укор официальным донесениям, многие русские крестьяне принимали участие в восстании". А ў траўні 1863 года, напярэдадні Мілавідскай бітвы ў Слонімскім павеце, "крестьяне целыми станами принимали православную присягу на верность мятежу…"[1]

17 траўня І.Лукашэвіч з часткаю слонімскага атрада заняў вёску Дабромысел. Ён сабраў у царкве членаў валасці, а затым разам з настаяцелем праваслаўнай царквы Хрыневічам абвесціў аб перадачы зямлі сялянам і роўнасці ў правах усіх саслоўяў. Быў падпісаны дакумент аб гэтым, за подпісам І. Лукашэвіча, старшыні валасці Яна Лазарчука і сялян Змітрука Шачэлы і Тамаша Каневехты.

Мілавідскі лагер ператвараўся ў сапраўднае паселішча, дзе адначасова знаходзіліся каля 800 паўстанцаў: ваўкавыскі атрад Стравінскага (каля 270 чалавек), гродзенскі Лянкевіча (каля 25), пружанскі Улодака (каля 50), навагрудскі Міладоўскага (каля 140). Агульнае камандаванне ўзяў на сябе палкоўнік Аляксандр Лянкевіч. Апісанне лагера пакінуў адзін з удзельнікаў Мілавідскай бітвы Ігнат Арамовіч: "Лагер Юндзіла быў растаўлены на развілцы дарог да Асаўца і Мышанкі. Іншыя атрады сталі пры дарозе паміж палянай і невялікім балотам. На паляне размясцілася пляцоўка для коней і кухня. Адпаведна з мясцовасцю і наяўнымі сіламі палкоўнік Лянкевіч арганізаваў у лесе пры шашы, з боку абозу, засаду, расставіўшы справа ад дарогі з абозу да шашы роту Стравінскага і Хадакоўскага, а роту Улодака і частку роты Юндзіла, якая складалася з 180 стральцоў, павярнуў у кірунку дарогі да Смалярні, а з тылу за імі размясціў касінераў на чале з Ельскім. Налева ад дарогі да абоза да шашы размясціліся 130 касінераў з ксяндзом Лашкевічам і рота Самуліча. У абозе Юндзіла ў якасці аховы засталася другая частка ягонай роты – 120 стральцоў".[2]

Вечарам 20 траўня (1 чэрвеня) лагер інспектаваў Кастусь Каліноўскі і Эразм Заблоцкі.

У той жа час са Слоніма супраць паўстанцаў была накіравана калона расійскіх войск Стараінгерманландскага палка пад камандаваннем падпалкоўніка Булгарына агульнай колькасцю каля 700 чалавек – 3 роты пяхоты, 30 коннікаў, 4 гарматы з разлікамі.

Булгарын падзяліў падначаленыя яму войскі на дзве часткі. Адной, на чале з маёрам Ягоравым у складзе адной роты, двух гармат і 15 коннікаў, ён загадаў ісці праз Жыровічы, Быцень і адтуль праз Дабромысел і Югалін выйсці да Грудаполя. Сам жа Булгарын на чале другой групы ў складзе двух гармат, двух ротаў і 15 конніках накіраваўся туды ж, да Грудаполя, праз Коўбавічы. Паблізу вёскі Ямышына ён спыніўся ў чаканні раз'езда артылерыйскага афіцэра прапаршчыка Бранеўскага з некалькімі коннікамі. Як толькі той паведаміў, што шаша свабодная, як з боку леса пачуліся стрэлы.

Булгарын загадаў рассыпаць першы ўзвод цэпам і накіраваў іх праз лес да шашы. Больш ніякіх стрэлаў не адбывалася. Як высветлілася, Бранеўскі яшчэ да падыхода асноўных сіл Стараінгерманландскага палка паслаў

у бок Мілавідаў канвойнага падафіцэра Кушму з некалькімі коннікамі, але яны патрапілі ў пастку. Кушма быў схоплены, і пазней забіты адным з паўстанцаў.

Да Булгарына падышла рота маёра Ягорава. На ноч яны размясціліся ў вёсцы Грудаполе. З Нясвіжа рускім было паведамлена пра хуткі падыход двух ротаў на чале з маёрам Радовым, да якога Булгарын накіраваў аднаго са сваіх людзей, каб той перадаў запіску, у якой Радову загадвалася ўдарыць на Мілавіды. Стрэлы яго атакі стануць сігналам для наступлення самога Булгарына. І такім чынам паўстанцы трапяць у пастку. Але да 11 гадзін 22 траўня стала відавочным, што чаканні не спраўдзіліся, таму Булгарын вырашыў самастойна пачаць наступ на паўстанцкі лагер пад Мілавідамі.[3]

Раніцай 22 траўня (3 чэрвеня) сярод камандзіраў паўстанцаў здарыўся канфлікт: калі Лянкевіч загадаў заняць падзеленым ім падраздзяленням баявыя пазіцыі, то адзін з кіраўнікоў – Улодак, адмовіўся выконваць загад. Не прыйшоўшы да паразумення, ён адзначыў, што падпарадкоўваецца Рамуальду Траўгуту, на аб'яднанне з якім дарогай на Гушанку накіраваў свой атрад. Гэты прыклад з'яўляўся яскравым сведчаннем той праблемы, якая стала прычынаю ні аднаго паражэння ў ходзе баявых дзеянняў – адсутнасць адзінаначальства ў паўстанцкім войску.

Налева ад дарогі да лагера знаходзіліся атрады Лукашэвіча і Сасуліча. 60 стральцоў Юндзіла размясціліся злева, пры дарозе з лагера на шашу, за імі паставілі роту Стравінскага і Хадакоўскага. Ельскі з касінерамі засталіся ў лагеры.

Бітва пачалася каля паловы дванаццатай. Рускія наступалі з боку Чамёлаў, дзе іх удар на сябе прынялі 60 паўстанцаў, растаўленых на скрыўленні леса. Але яны хутка адступілі, збіраючыся на пляцоўцы для коней. Пачаўся ўпарты бой.

Рускія войскі, падышоўшы да ўзлеска, за якім размяшчаўся лагер, абстралялі яго карцечнымі стрэламі. Як піша І. Арамовіч, "затым скіраваныя на ўваход з шашы на дарогу да лагера, яны абстрэльвалі лес і шкодзілі больш сваім, чым нашым".[4]

Пасля гэтага першая рота рускіх войск пачала хуткае наступленне ўправа ад шашы. А першы ўзвод трэцяй роты, увайшоўшы ў лес, завязаў перастрэлку з боку пляцоўкі. Другі ўзвод трэцяй роты наступаў з



*Урачыстае адкрыццё мемарыяльнай капліцы ў Мілавідах у 1933 годзе*

боку Смалярні з барабанным боем, каб прыцягнуць да сябе ўвагу паўстанцаў і прымусіць іх адцягнуць свае сілы з месца асноўнага ўдара рускіх войскаў. Але паўстанцы не паддаліся на гэта, таму што разумелі непрыступнасць занятых імі пазіцый. Дзве гадзіны ішла перастрэлка на ўзлеску, пасля чаго Булгарын вымушаны быў адвесці першую роту ў рэзерв, а замест яе накіраваў другую, але і свежыя падмацаванні не дапамаглі. Рускія імкнуліся ўдарам дабрацца да сцяжынкі, якая злучала шашу з паўстанцкім лагерам, і такім чынам перарэзаць сілы паўстанцаў. Але максімум, што ўдалося рускім, гэта ў некалькіх месцах прасунуцца да поўступаў да лагера. Пры чым адтуль яны былі адкінутыя касінерамі на чале з Ельскім і з ксяндзом Лашкевічам, якія тройчы вадзілі падначаленых ім паўстанцаў у атаку. Паўстанцам таксама ўдалося паралізаваць дзеянні трэцяй роты рускіх пад кіраўніцтвам маёра Ягорава. У сувязі са стратамі, стомленасцю войск і надыходам цемры Булгарын прыняў рашэнне аб адступленні.

Лянкевіч у пачатку бою з большасцю паўстанцаў адышоў наперад і цалкам убок, а потым да лагера Юндзіла, збіраючыся ўдарыць у тыл рускім войскам. Але ў лагер прыйшла вестка пра падыход свежых рускіх 10 ротаў з Мілавідаў (у сапраўднасці, іх было 2, і яны падышлі толькі на наступны дзень), таму Лянкевіч адмовіўся ад атакі. І ў выніку замест пераследу ворага паўстанцы ўвечары вырашылі пакінуць лагер, падзяліцца і накіравацца ў розныя бакі. Такім чынам, гэтае памылковае рашэнне каштавала таго, што на наступны дзень рускія войскі на чале з Булгарыным, умацаваныя свежымі 2 ротамі, занялі Мілавідскі лагер. У гэтым баі рускія страцілі 9 забітымі і 41 параненым (адзін з іх памёр у шпіталі), паўстанцы – 18 чалавек.

Пасля бітвы загінулых паўстанцаў і рускіх салдат пахавалі ў розных магілах побач з шашою. На магіле царскіх салдат быў пастаўлены чыгунны крыж, а ў гонар палеглых паўстанцаў у 1933 годзе адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай капліцы.

У 1990 годзе тут быў пастаўлены яшчэ адзін памятны знак — камень з мемарыяльнай плітой і надпісам па-беларуску.

**Васіль Герасімчык**

1. Смирнов, А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. М., 1963, с. 244.
2. Арамовіч І., Мары. Успаміны пра партызанскі рух у Гродзенскім ваяводстве ў 1863 і 1864 гг. // Arche. № 10. 2010, с. 31.
3. НАРБ у Гродне, Ф. 1. Оп. 34. Д. 220 Дело о повстанческом движении по Слонимскому у. в 1863 г., арк. 63а.
4. Арамовіч І., там жа, с. 32.

З архіваў

# Рукапіс Язэпа Стаброўскага пра паходжанне назвы Слоніма

У архіўных зборах Народнага музея імя Жукоўскага СШ № 4 імя Батава г. Слоніма захоўваецца цікавы рукапіс заснавальніка Слонімскага краязнаўчага музея Я. Стаброўскага (1870 — 1968). Ён быў напісаны знакамітым краязнаўцам 19 чэрвеня 1963 года на замову школьнага музея. Тэкст пераважна прысвечаны праблеме паходжання назвы нашага горада. Дагэтуль ён выкарыстоўваўся даследчыкамі толькі часткова[1]. Цяпер жа прапануецца ўвазе чытачоў “СК” у поўным аб’ёме ў перакладзе на беларускую мову з выпраўленымі недакладнасцямі ў назвах кніг, датах іх выхаду.

**Сяргей Ёрш,**
**Сяргей Чыгрын**



*Язэп Стаброўскі*

Директору школьного Музея при школе №4 в г. Слониме
Тасе Волчёк

При сем прилагаю, по содержанию Вашего письма - „Историческую справку о городе Слониме.”

Прошу принять и передать всем Вашим сотрудникам - Юным Краеведам - мой радостный, душевный привет.

И. Стабровский

19/VI 63 г.
г. Слоним.

**Гістарычная даведка пра горад Слонім, БССР Гродзенскай вобласці** Стаброўскага Язэпа Язэпавіча — археолага, заснавальніка і б[ылога] старшага навуковага супрацоўніка Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея.

Горад Слонім, адзін з самых старажытных гарадоў Чорнай Русі[2], па рускіх летапісах “Вслонім” ці “Услонім”, таксама як і “Всвіслач” замест “Свіслач” — не паддаюцца тлумачэнню.

Прыстаўкі літар В і У да сапраўднай назвы гарадоў — з’яўляюцца змяненнем перапісчыкаў летапісаў і не маюць зусім ніякага значэння.

Калі Слонім стаў належным чынам называцца — цяжка вызначыць, паколькі яшчэ ў 1276 г., калі Трайдзен пасяліў у ваколіцах Слоніма частку прусаў — [валынскі] князь Уладзімір, паводле летапісу, *“послаша рать свою ко Вослонимови взяста е, абыше земле не подседали”*. У 1281 г. Слонім знаходзіўся ў валоданні князя “Васлонімскага” — Васілька (*Полное собрание русских летописей*, т. II, стар. 209).

Гаворачы пра старажытныя летапісы, варта мець на ўвазе наступнае: Нестар (1056 — 1114) — летапісец, манах Кіева-пячорскага манастыра, укладальнік у 1111-1112 гг. рускага летапісу пад назвай “Аповесць мінулых гадоў”, якая аб’ядноўвала ўсе больш раннія летапісныя творы, двойчы перапрацаваныя, якія ў 1116 г. захаваліся ў Лаўрэнцьеўскім спісе і ў 1118 г. — у Іпацьеўскім спісе.

У XVI ст. у Маскве быў складзены “Агульнарускі звод летапісаў”, які дайшоў да нас у спісе XVIII ст. Уваскрасенскім і Ніканаўскім (*А. А. Шахматов. Розыскание о древнейших русских летописных сводах*. СПб, 1908 г. и *“Повесть временных лет”*. т. I. 1916 г.).

Паколькі Слонім у складзе Чорнай Русі ў канцы X стагоддзя належаў Кіеўшчыне, то найхутчэй назва Вслонім ці Услонім была абазначаная ў летапісу Нестаравым.

Слонім, як вытворнае ад слова “слон”, упершыню высунутае аўтарам *“Описания города Слонима”* (Гродна, 1891, друк. губ. праўлення) М. Мілакоўскім[3], а пасля і гісторыкам Ф. В. Пакроўскім у выдадзенай ім “*Археологической карте Гродненской губернии”* (Вільна, 1895 г.), як мясцовая легенда, якая грунтуецца на знаходцы ў старажытнасці слановых (мамантавых) касцей — рашуча не мае ніякіх падставаў па наступных меркаваннях:

Жыхары Слонімшчыны — крывічы ў старажытнасці маглі па чутках ад купцоў ведаць пра існаванне ў Рымскай імперыі для ваенных мэтаў баявых сланоў, якіх называлі “Elephas” — хаця іх асабіста ніколі і не бачылі, ды і слова “слон” ім зусім не было вядомае. Гэта зусім праўдападобна, паколькі ўплыў рымскі на тэрыторыі Чорнай Русі цалкам пацвярджаецца знаходкамі грэчаскіх і рымскіх манет да нашай эры і пазнейшых у наваколлі гор. Гродна. Пра гэта згадвае аўтар працы “Grodno” (Wilno, 1923) Юзаф Ядкоўскі.

Акрамя таго, мною было знойдзена дзве сярэбраных рымскіх манеты [імператара] Antonius’a Aug. на разбуранай кратавіне каля вёс[кі] Любоўша, недалёка ад чыгуначнай станцыі Баранавічы (горад Баранавічы ў канцы мінулага стагоддзя толькі стаў фармавацца).

Сем такіх жа манет было знойдзена каля вёс[кі] Кошлева Навагрудскага павету.

Цікава, што ў был[ым] маёнтку “Каросна” таго ж павету падчас пераробкі пад раллю старажытнага могільніка былі

знойдзены: літы шкляны шар шэра-сіняваты, з бачнай залітай шклом адтулінай, які злёгку патрэскаўся, і палова такога ж шара з унутранай пустэчай. Таксама была знойдзена на раллі частка жалезнай кальчугі (захоўваецца ў Слонімскім музеі). Паколькі зусім такі самы шар быў знойдзены пры капанні калодзежу ў Екацярынаслаўскай губ., то з гэтай нагоды ў “Историческом Вестнике” [Санкт-Пецярбург] распачалася перапіска: адныя лічылі, што па Украіне такія ж знойдзеныя шары мясцовыя жанчыны ўплятаюць у валасы для надання ім пышнасці, іншыя западозрылі ў іх былыя артылерыйскія снарады.

З гэтай нагоды мною былі ўчыненыя пошукі ў складзе састарэлых артылерыйскіх снарадаў у Брэст-Літ[оўскай] крэпасці, дзе сярод шарападобных чыгунных снарадаў, якія перасталі выкарыстоўвацца, шкляных снарадаў не аказалася. І ў вайсковай літаратуры нідзе не згадвалася пра выкарыстанне шкла для вырабу снарадаў.

Пасля гэтага я высунуў доказы, што згаданыя шары нішто іншае, як рымскія слёзніцы, куды найманыя плакальшчыцы злівалі свае “горкія” слёзы па знакамітых нябожчыках, якія пасля заканчэння слёзнай цырымоніі “на вечныя часы” заліваліся расплаўленым шклом.

Такое маё тлумачэнне было надрукавана ў “Историческом вестнике” і на гэтым спрэчка спынілася.

***

Меркаванне пра паходжанне слова “Услонім” як назвы паселішча, прызначанага нібыта для аховы сябе і іншых паселішчаў ад нападу ворагаў — таксама не мае падставаў, паколькі ў той час, калі пісаліся летапісы, Слонім быў паселішчам, як і іншыя — гаспадарчага ўхілу і не прызначаўся як “заслон” для прыкрыцця паселішчаў. І слова “услон” ў абароце не было.

Калі ў IX стагоддзі радавы лад у Славян распаўся і ўзніклі асобныя вялікія сем’і, якія

Историческая справка
о городе Слониме БССР Гродненской области

Стабровского Иосифа Иосифовича - археолога, основателя и б. старшего научного сотрудника Слонимского Историко-Краеведческого Музея.

Город Слоним, один из древнейших городов Черной руси, по русским летописям „Вслоним или Услоним" равно как и „Ввислочь" вместо „Свислочь" - не поддаются объяснению.

Приставки букв В и У к подлинному названию городов - являются измышлением переписчиков летописей и не имеют совершенно никакого значения.

Когда Слоним стал надлежаще именоваться - трудно определить, так как еще в 1276 г., когда Тройден осадил в окрестностях Слонима часть пруссов - князь Владимир „посылая, согласно летописи, рать свою ко Вслонимови взяста е, абыше земле непоседаш".

В 1281 г. Слоним находился во владении князя „Вослонинского" - Василька (Полное собрание русских летописей т. II стр. 209)

Говоря о древних летописях - следует иметь в виду следующее: Нестор (1056-1114) летописец, монах Киево-печерского монастыря, составитель в 1111-1112 г. руской летописи под названием: „повесть временных лет" объединявшую все более ранние летописные произведения, дважды переработанные. в 1116 г. сохранившееся в Лаврентьевском списке и в 1118 г. - в Ипатьевском списке.

В XVI в. в Москве был составлен „Общерусский свод летописей" дошедший до нас в списке XVIII в. Воскресенском и Никоновском.

А.А. Шахматов. Разыскание о древних русских летописных сводах СПБ 1908 г.

и „Повесть временных лет. т. I. 1916 г.

аб’ядноўваліся ў абшчыны, то паселішчы іх узнікалі непадалёку ад цэнтра абшчыны ў “гарадку”, умацаваным драўлянай агароджай, акружанага вадзяным рвом. Падчас небяспекі ў яго маглі хавацца пасяленцы і ўдзельнічаць у абароне.

Увогуле славяне Чорнай Русі жылі ў зямлянках, пакрытых дзірваном, а ў цёплы час года — у хацінах, сплеценых з галля ці чароту, аблепленых глінай. Унутры гэтых пабудоў былі ачагі з адтулінай для адводу дыму.

Калі земляробства дастаткова развілася і ўзнікла магчымасць будаваць бярвеністыя хаты, крытыя чаротам ці саломай, то такія ўзводзіліся і ў выглядзе “курных хат” праіснавалі з такімі ж ачагамі да канца сямідзесятых гадоў мінулага [XIX] стагоддзя, калі пачалі будаваць т[ак] зв[аныя] “рускія печы” з дымавымі трубамі, якія выклікалі захапленне ў мясцовых сял[ян]. Асабіста мне ў дзяцінстве давялося шмат разоў бачыць такія “курныя хаты”.

Што датычна горада Слоніма, як слова вытворнага ад слова “салома”, дык гэта падаецца толькі здагадкай, паколькі ў той час, калі ствараліся старажытныя летапісы, Славяне жылі ў зямлянках і слова “салома” створанае нашмат пазней.

Пры маёй памяці, да вялікага пажару ў васьмідзясятых гадах мінулага [XIX] стагоддзя (25.V.[1881 г.]) ускраіны Слоніма былі забудаваны хатамі і гаспадарчымі пабудовамі, накрытымі саломай. Але гэтая акалічнасць не можа быць доказам паходжання слова Слонім ад слова “салома”.

**(Заканчэнне ў наступным нумары)**

1. Ёрш С. Адкуль паходзіць назва нашага горада // Газета Слонімская, 1997, № 12 (12), 22-28 жніўня.

2. Чорная Русь — штучная назва тэрыторыі сучаснай Гродзенскай вобласці і шэрагу прылеглых раёнаў у XIII-XIV стагоддзях, якая сустракаецца ў прускіх, лівонскіх і іншых хроніках.

3. Падрабязней пра гэтую кнігу і яе аўтара гл.: Герасімчык В. Першы даведнік, прысвечаны Слоніму // Слонімскі край, 2016, № 2, сакавік, с. 12.

*КНІГАРНЯ*

## Новая кніга пра Жыровіцкі манастыр




У Слонімскай друкарні пабачыла свет кніга журналіста Васіля Афанасіка пра Жыровіцкі манастыр пад назвай “Неугасимая лампада”. У ёй чытачы даведаюцца пра з’яўленне Жыровіцкай іконы Божай Маці, пра гісторыю манастыра, яго сённяшнія будні, Мінскую духоўную семінарыю і Слонімскае духоўнае вучылішча.

**С.Ч.**

# СЛОНІМСКАЯ СІНАГОГА



*Сінагога на фотаздымку 1943 года*

Яўрэі пачалі з'яўляцца ў Беларусі пасля выдадзенага князем Вітаўтам прывілея ад 1388 года. Той дазваляў ім сяліцца ў гарадах, адным з якіх стаў Слонім. Гэта павінна было спрычыніцца да развіцця гандлю і рамёстваў.

Да пачатку XVII стагоддзя яўрэйская абшчына ў Слонімеператварылася ў значную сілу ў жыцці горада і атрымала статус самастойнай падатковай адзінкі, а ў далейшым нават статус цэнтра акругі – галіль. Гэтай падзеі садзейнічаў рост эканамічнага і палітычнага значэння горада ў выніку правядзення ў ім генеральных сеймаў Вялікага княства. У выніку ў 1642 годзе ў Слоніме была пабудаваная каменная галоўная сінагога ў барочным стылі, якая сёння з'яўляецца адным з сімвалаў горада.

Дазвол на яе ўзвядзенне быў атрыманы ў 1635 годзе ад караля Уладыслава IV, пасля таго, як згарэла былая драўляная сінагога. У выніку з'явіўся магутны будынак абарончага тыпу з шыкоўным, сучасным барочным франтонам. Нягледзячы на сучасныя стылістычныя рысы, храм захаваўваў асноўныя традыцыі габрэйскага будаўніцтва: тоўстыя сцены, выцягнутыя аркавыя вокны, размешчаныя ў два ярусы.

Сінагога неаднаразова адчувала на сабе ўздзеянне тых трагічных ваенных падзей, якія абрынваліся на Слонімскую зямлю. Яна была моцна пашкоджана ў 1812 годзе. А 25 траўня 1881 года, калі ў Слоніме адбыўся буйнейшы ў яго гісторыі пажар, у сінагозе згарэлі ўсе архівы і летапісы мясцовай яўрэйскай абшчыны за амаль паўтысячагадовую яе гісторыю.

Пасля таго, як будынак быў часткова аднаўлены і слонімскія яўрэі звярнуліся да царскай адміністрацыі па дазвол на правядзенне набажэнстваў, то атрымалі адмову. Сінагога была апячатана, у сувязі з чым у 1883 годзе Хайм Памеранц і Мойша Батлін звярнуліся да губернатара з хадатайніцтвам. Але толькі праз тры гады, у 1886 годзе, калі сінагогу наведаў гарадскі кіраўнік Пётр Васілеўскі, было вырашана прывесці сінагогу ў належны стан.

Сінагога была адрамантаваная і дзейнічала да 1940 года, калі была ператвораная ў склад.

У 2001 годзе гэты будынак быў перададзены ва ўласнасць Яўрэйскаму рэлігійнаму аб'яднанню Рэспублікі Беларусь, у сувязі з чым прагучала прапанова стварыць тут музей гісторыі яўрэяў Заходняй Беларусі. У траўні 2016 года зноў слонімскія ўлады зноў узгадалі гэтую ідэю.

Будынак сінагогі мае квадратную форму пад высокім двухсхільным дахам. Асноўны аб'ём абнесены па перыметры шэрагам пазнейшых пабудоў. Сціплае знешняе аздабленне дапаўнялася багатым унутраным інтэр'ерам, сярод якога ў самым цэнтры вылучалася біма – узвышэнне для выканання рэлігійных абрадаў. Паабапал яе размяшчаліся чатыры магутныя слупы, над якімі знаходзіўся купал, дэкараваны стукавым паліхромным арнаментам з лісцяў аканта і пальмет. Сцены былі ўпрыгожаны культавай сімволікай, насычанай дэкаратыўна-арнаментальнымі матывамі, пакрытай пазалотай і паліхромнай афарбоўкай. Па баках алтарнага картуша знаходзіліся насценныя фрэскі з выявамі львоў, ваз, букетаў, драпіровак (шэраг гэтых упрыгожванняў захаваліся да нашага часу).

**Васіль Герасімчык**



*Фота Г. Браўна. 1930-я гады*



*Галоўная сінагога на фотаздымку Я. Булгака*



*Слонімская сінагога. Гравюра Францішка Буркевіча. 1948 год*



*Інтэр'ер слонімскай сінагогі. Фота Г. Браўна. 1930-я гады*



*Цэнтральныя дзверы сінагогі. Фота 2012 года*




*Сінагога на фотаздымку 2002 года*

# Пра слонімскага шляхціча Міхаіла Цішэўскага




У 2009 годзе ў Санкт-Пецярбурзе выйшла кніга «Палякі ў Пермскім краі: нарысы гісторыі і этнаграфіі».[1] Безумоўна, назва недакладная, бо вельмі часта там згадваюцца ўраджэнцы Беларусі, і не толькі католікі, але і праваслаўныя. Але аўтары ўсіх іх называюць «палякамі». У Пермскі край Расіі (Урал) нашыя землякі патрапілі пасля падаўлення вызваленчых паўстанняў, асабліва шмат пасля 1863 года. Іх туды высылалі царскія рускія ўлады. Паколькі многія з «палякаў» мелі добрую адукацыю, яны «рабілі кар'еру ў аддаленых ад цэнтра губернях Расіі, дзе заўсёды быў высокі попыт на кваліфікаваных спецыялістаў». Былі і тыя, хто ў пазнейшы час добраахвотна ехаў у гэты край у пошуках працы. Сярод гэтых людзей згадваецца і адзін слонімец. Вось якую інфармацыю пра яго ўтрымлівае архіўны дакумент, змешчаны ў кнізе:

«Канцылярскі служыцель Міхаіл Мікалаевіч Цішэўскі працуе ў штаце Пермскага губернскага праўлення, 24 гадоў, нарадзіўся ў 1874 г., красавіка 4 дня, веравызнання праваслаўнага, мае цёмна-бронзавы медаль на стужцы дзяржаўных колераў за працы па Першым усеагульным перапісу насельніцтва 1897 года, заробак атрымлівае па працах і заслугах. З мяшчан гор. Слоніма Гродзенскай губ. Маёнтка — няма. Халасты. Пастановай Пермскага губернскага праўлення вызначаны на службу з правамі канцылярскага служыцеля 3-га разраду ў штат губернскага праўлення 1894 года 16 жніўня. Пастановай упраўляючага Пермскай казённай палатай, прынятай 13 красавіка 1898 годы за № 30, пераведзены ў штат палаты, 14. 04. 1898 года дапушчаны да выканання пасады памочніка сталаначальніка палаты, 2. 03. 1899 года прызначаны сталаначальнікам палаты».

25-гадовы Цішэўскі, які рабіў імклівую кар'еру, у 1899 годзе звярнуўся ў «Дэпартамент геральдыі». Ён прадаставіў дакументы роду Цішэўскіх «для зацвярджэння яго ў дваранскай годнасці». Вось іх пералік, складзены самім Міхаілам Цішэўскім:

«1) герб Plomienszyk роду Цішэўскіх, які перайшоў у Польшчу з Францыі каля 1100 года, на польскай мове; 2) урывак з кнігі радаводу Цішэўскіх герба Ятрэб (Ястрабец? — СЁ) на польскай мове з рускім перакладам, аб зацвярджэнні ў дваранскай годнасці Віктара Цішэўскага; 3) падпіску Віктара Цішэўскага, зробленую 8 чэрвеня 1829 г. у Слонімскім гарадскім судзе, аб прызнанні майго прадзеда Міхаіла з яго сынам, а маім дзедам Іванам, стрыечным братам (на польскай мове з рускім перакладам); 4) метрычную выпіску за № 21, на лацінскай мове, аб нараджэнні майго прадзеда Міхаіла Лявонава Цішэўскага; 5) метрычную выпіску за № 1 на польскай мове аб нараджэнні майго дзеда Івана Міхайлавіча Цішэўскага і 6) метрычную выпіску за № 22 на лацінскай мове аб нараджэнні брата майго дзеда — Карла Міхайлавіча Цішэўскага; і не маю магчымасці атрымаць метрыку аб нараджэнні цяпер памерлага бацькі майго Мікалая Іванавіча Цішэўскага, хрышчанага ў адным з Слонімскіх касцёлаў Гродзенскай губерніі, паколькі архівы Гродзенскай кансісторыі знішчаны пажарам».[2]

У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве захоўваецца справа грамадзянскага чыноўніка Міхаіла Мікалаевіча Цішэўскага. З яе вынікае, што ён даслужыўся да калежскага асэсара.[3] Звестак пра слонімца пасля кастрычніка 1913 года няма.



*Шляхецкі герб Ястрабец. Сярод родаў, якім ён належаў, згадваюцца Цішэўскія.*

Цікава, што ў кнізе, прысвечанай беларусам у Пермскім краі[4], зусім нічога не гаворыцца пра нашых землякоў, якія высылаліся за ўдзел у паўстаннях. Паводле яе аўтараў, беларусы пачалі з'яўляцца на Урале ў канцы XIX ст. выключна як добраахвотныя перасяленцы.

**Сяргей Ёрш**

---

1. Поляки в Пермском крае: очерки истории и этнографии. — Санкт-Петербург: Маматов, 2009. 304 с., іл.

2. http://bookz.ru/authors/kollektiv-avtorov/polaki-v_427/page-5-polaki-v_427.html

3. http://rgia.su/old/showObject.do?object=511572519&viewMode=B_10791

4. Белорусы в Пермском крае: очерки истории и этнографии. — Санкт-Петербург: Маматов, 2013. 288 с.: іл.

# У Слоніме сярод папер Гальяша Леўчыка знайшоўся рукапіс Язэпа Вількоўшчыка

Наша зацемка ў мінулым нумары "СК" пра знойдзеныя ў Мінску рукапісы слонімскага паэта Язэпа Вількоўшчыка[1] (Іосіфа Вількоўскага, 1898 — 1984) атрымала неспадзяваны працяг. Падчас прагляду невялікага архіву паэта Гальяша Леўчыка (Ляўковіча, 1880 — 1944), які зберагаецца ў фондах Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя І. Стаброўскага, аўтар гэтых радкоў знайшоў рукапіс з двума вершамі. Пад кожным з іх было падпісана "Вількоўскі"!

Гэта яшчэ адзін доказ, што паэты былі добра знаёмыя. Да Гальяша Леўчыка ў 1930-я ў яго хатку каля Шчары прыходзіў Анатоль Іверс (Іван Міско, 1912 — 1999), хацеў пачуць меркаванне гаспадара пра свае вершы. Атрымліваецца, што і Язэп Вількоўшчык таксама прыносіў творы, слухаў парады Леўчыка.

Як і ў выпадку з мінскай знаходкай, знойдзеныя ў Слоніме вершы Вількоўшчыка вядомыя, яны публікаваліся. Верш "Сьмерць" быў надрукаваны ў часопісе "Шлях моладзі" (1933, № 10, кастрычнік, с. 9), верш


Ад ўсходу на захад у тваём [illegible]
Жмуты іскраў хапаем, што [illegible] [illegible]
Мы гэтыя гулякі, што ў ноч пры ска-
нашай
[illegible] агульны апошні свой баль! —
Вількоўскі —
1931. Слонім. —

"Два цені" — у часопісе "Хрысьціянская думка" (1933, № 1, 15 студзеня, с. 5). Што ж нам дае знаходка рукапісу? Па-першае, даведаліся, што верш "Сьмерць" напісаны ў Слоніме ў 1931 годзе. Па-другое, мы маем арыгінальныя творы ў аўтарскай рэдакцыі. Публікаваліся яны ўжо адрэдагаванымі невядомымі нам супрацоўнікамі віленскіх беларускіх часопісаў. І не заўсёды яны мелі рацыю, а ў адным выпадку дапусцілі памылку. У публікацыі ў "Шляху моладзі" ў вершы "Сьмерць" ёсць такі радок: "Дарэмныя сьлёзы і жальбы да тога". У такім выглядзе ён патрапіў і ў кнігу твораў паэта.[2] У рукапісе чытаем: "Безрадныя сьлёзы і жальбы да Бога". Гэтую заўвагу трэба ўлічыць пры наступных публікацыях творчай спадчыны паэта.

Што да верша "Два цені", дык высвятляецца, што ў "Хрысьціянскай думцы" чамусьці не была апублікаваная яго апошняя страфа.

Язэп Вількоўшчык відавочна рэдка карыстаўся кірыліцай. Пішучы гэты рукапіс ён двойчы збіваўся на беларускую лацінку.

**Сяргей Ёрш**

1. Ёрш С. Знойдзены рукапісы паэта Язэпа Вількоўшчыка // Слонімскі край, 2016, № 4, травень, с. 2.
2. Язэп Вількоўшчык. Прыкрыты сэрца боль: з літаратурнай спадчыны. — Мінск: Кнігазбор, 2015, с. 31.

# Шашка са Слоніма (XII ст.)



У 1968 годзе пад час раскопак на Замчышчы ў Слоніме археолагам Я.Г. Звяругаю быў знойдзены цікавы выраб з рога круглай формы. Да сённяшняга часу выказваюцца розныя меркаванні наконт яго прызначэння, але большасць даследчыкаў называе гэты прадмет шашкаю.

На знешняй паверхні гравіроўкай нанесены дзве выявы: зверху - фантастычная жывёла, падобная да каня, сабакі, льва або барса і знізу - драпежная птушка (сава ці філін).

Галава міфічнай жывёлы павернута назад, хвост узняты ўверх і завершаны пальметтай (раслінны арнамент у выглядзе ліста пальмавага дрэва). Тулава дэталізавана лініямі і кропкамі. Малюнак выкананы ўмоўна, але ўпэўненымі лініямі. Пад фігурай жывёлы змешчана птушка. Магчыма, спалучэнне гэтых малюнкаў мела нейкі сэнс, але які дакладна, сёння адказаць цяжка.

Выказваецца таксама меркаванне, што на шашцы выгравіраваны малюнак шлюбных гульняў: адна з жывёл намагаецца сваімі рухамі прыцягнуць увагу другой.

На падставе арнамента можна гаварыць пра паходжанне дадзенага выраба з Усходу.

Шашка захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі.

**Васіль Герасімчык**

Лавыш К.А. Художественные традиции восточной и византийской культуры в искусстве средневековых городов Беларуси (X-XIV вв.). - Мн., 2008. - с. 97.

Мядзведзева В. Сярэдневяковыя шашкі Беларусі (па матэрыялах археалагічных даследаванняў) // Гістарычна-археалагічны зборнік. - Вып. 22. - Мн., 2006. - с. 192, 194.

# Слонімскія паэты на старонках газеты “Літаратура і мастацтва” 1939-1940 гг.



3 кастрычніка 1939 г., № 34 (448).

ВЫЗВАЛЕНАЕ СЛОВА

(Заметкі з дзённіка)

Калі мы пазнаёміліся і загаварылі пра вершы, пра новыя кнігі, выходзячыя ў Савецкай Беларусі, аб новых імёнах у савецкай літаратуры — паэт Сяргей Хмара, ён-жа намеснік начальніка рабочай гвардыі ў Слоніме, прапанаваў нам паказаць адну з «выдатнасцей» былой польскай дзяржавы. Высокі, хударлявы, пасівеўшы ад доўгага сядзення ў турмах, Сяргей Хмара не страціў бадзёрасці і, жартуючы, сказаў:

…ларусі не вельмі багатая, але яна несумненна з'яўляецца выдатнай каштоўнасцю і будзе з часам грунтоўна вывучацца.

Сяргей Хмара прымае ўдзел у літаратуры каля 10 год, палову гэтага часу прасядзеў у турмах, дзе таксама не пакідаў літаратурнай дзейнасці, прымаючы ўдзел у рукапісным журнале палітвязняў. У 1939 годзе на грошы, сабраныя сялянамі, выдаў невялічкі зборнічак «Жураўліным шляхам». …

Пасля таго, як у верасні 1939 года ў Заходняй Беларусі польская ўлада змянілася на савецкую, з БССР прыехалі шматлікія журналісты. Для сваіх нарысаў яны шукалі сярод мясцовага насельніцтва змагароў супраць “панскага панавання”. У Слоніме такія знайшліся.

Дзіўна, але мінская газета “Літаратура і мастацтва” пісала толькі пра слонімскіх паэтаў Сяргея Хмару і Анатоля Іверса. Пра Гальяша Леўчыка, Сяргея Новіка-Пеюна, Язэпа Вількоўшчыка — ні слова. Відаць, першыя двое выдатна падыходзілі для савецкага друку па сваім сацыяльным паходжанні, ды і біяграфіі ў іх былі поўныя арыштаў польскай паліцыяй. А можа ўсё прасцей — толькі з Хмарам і Іверсам сустрэўся карэспандэнт, іншых паэтаў ён не бачыў? Дарэчы, усе пяць згаданых слонімцаў збіраліся разам 8 кастрычніка 1939 года ў рэдакцыі газеты “Вольная праца” на сустрэчу са старшынёй Саюза пісьменнікаў БССР Міхасём Лыньковым.

А яшчэ 3 кастрычніка 1939 года ў № 34 пісьменнік і журналіст Яфім Садоўскі (1908 — 1993) друкуе ў газеце “Літаратура і мастацтва” артыкул “Вызваленае слова” (Заметкі з дзённіка)”, у якім піша пра жыццёвы шлях Сяргея Хмары і крыху пра Анатоля Іверса. На момант іх сустрэчы ў Слоніме Хмара быў намеснікам начальніка рабочай гвардыі, пазней працаваў разам з Іверсам у рэдакцыі раённай газеты “Вольная праца”. “Высокі, хударлявы, пасівеўшы ад доўгага сядзення ў турмах, Сяргей Хмара не страціў бадзёрасці”, — пісаў Садоўскі. Дарэчы, нярэдка пра паэта пішуць, што ён прасядзеў у турмах каля 10 гадоў, але гэта недакладна. Яфім Садоўскі са слоў Хмары піша прыблізна пра 5 гадоў польскіх турмаў і канцлагераў, да іх дадамо больш за паўтара года савецкіх турмаў, атрымліваецца не больш за 7 гадоў.

Садоўскі атрымаў ад Хмары яго зборнік “Жураўлiным шляхам” ды ў сваёй публікацыі называе некаторыя вершы, цытуе іх. Даводзілася сутыкацца са сцверджаннем, што Сяргей Хмара выдумаў пісьменніцкую арганізацыю, якую, нібыта, спрабаваў стварыць яшчэ пры польскіх уладах. Аднак у публікацыі “ЛіМа” згадваецца яго спроба “стварыць групу пісьменнікаў бядняцка-батрацкага маладняка”.

“Анатоль Іверс — вясковы хлапец з-пад Слоніма... Іверс — лірык, ён з натхненнем гаворыць аб беларускіх паэтах Трусу, Броўку, Глебку, многія вершы якіх ведае напамяць. Вершы Іверса, як і Хмары, ідэйна насычаны, яны плаўныя і задушэўныя”, — чытаем у згаданым нарысе.

Восенню 1939-га здарыўся, здаецца, адзіны выпадак, калі паэты Сяргей Хмара і Анатоль Іверс апублікавалі сумесны тэкст. У тым жа нумары “ЛіМа” ад 3 кастрычніка з’явілася іх “Прывітанне пісьменнікам і паэтам Савецкай Беларусі”. Пісаў яго відавочна Хмара, яго стыль адчуваецца ў тэксце. У “Прывітанні...” сцвярджалася: “Сягоння мы — вольныя і нам дарога шырокая. Сягоння ідзем далей, але не адны, а з усім савецкім народам”. Насамрэч, свабоды якраз і не было. Заходнебеларускія паэты хутка зразумелі “правілы гульні”, што, каб выжыць у савецкай рэчаіснасці, трэба славіць савецкі лад, “дарагога і мудрага настаўніка”, “правадыра” Сталіна.

Ні Хмара, ні Іверс ніколі не ўспаміналі пра гэтае сумеснае “Прывітанне...”. Адносіны паміж імі сапсаваліся падчас Другой сусветнай вайны, і таму ж Анатолю Іверсу было непрыемна, што яго творчы псеўданім



ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

Прывітанне пісьменнікам і паэтам Савецкай Беларусі

Ад імя заходне-беларускага батрацка-сялянскага літаратурнага маладняка вітаем вас, вольныя браты пісьменнікі і паэты Савецкай Беларусі.

Голас ваш у нашым падзямеллі не даходзіў і мы былі кінуты на волю лёса. Але мы не палі і вобмацкам ішлі наперад у барацьбе за жыццё і навуку. Мы не кончылі ніводнае школы, мы не мелі права друкавацца. Мы былі прыдушаны. Сягоння мы — вольныя і нам дарога шырокая. Сягоння ідзем далей, але не адны, а з усім савецкім народам.

Нашы песні ўліюцца у мора
На калгасных палях зазвіняць,
Іх сустрэнуць сірэны матораў
І паэмы савецкага дня.

Няхай жыве Савецкі Саюз!
Няхай жыве непераможная Чырвоная Армія, якая вызваліла нас ад белапольскага панскага іга!
Няхай жыве правадыр савецкага народа і ўсяго чалавецтва, дарагі і мудры настаўнік таварыш Сталін!

Сяргей ХМАРА.
Анатоль ІВЕРС.



3.

ВЕРШЫ СЯРГЕЯ ХМАРЫ

Кожны, хто любіць паэзію, верыць у яе неабмежаваныя магчымасці, лічыць яе справай надзённай, жыццёвай неабходнасцю, а не бяздзейным капрызам і бяздзейнай, знойдзе сабе ў вершах Сяргея Хмары (зборнік «Жураўлінным шляхам», Вільна, 1939 г.) нечакана-моцнае і неабвержнае падтрыманне. Вершы Сяргея Хмары выдадзены на працоўныя грашы заходне-беларускіх сялян, на капейкі, сабраныя галадаючымі беларусамі. Над гэтым варта задумацца, каб зноў, з асаблівай відавочнасцю, адчуць у гэтым адным невялікім факце, узятым непасрэдна з жыцця, нечакана ўзросшае значэнне і аў-

У зімовых лядах!
Трэба? — галовы зложым; —
Трэба? — целам, касцьмі!
Шлях бяздольным пракожым.
Нам палаць, а не цвісць!
І як заканамернае і натуральнае прадаўжэнне таго-ж матыва гучаць энергічныя і выразныя радкі з другога верш...

Нам не чакаць вясны
З замкнутымі вачамі.
Не сніць аб ёй начамі. —
Бо сны і будуць сны.
Паэзія С. Хмары выражае жаданне актыўнага рэвалюцыйнага дзеяння, ра-

стаяў побач з Сяргеем Хмарай (а яшчэ там побач быў верш Іверса “Вітаем музыку волі”, у якім згадваліся Сталін з Варашылавым). Хмара ў пасляваенны час жыў у Канадзе і пра той эпізод з праслаўленнем Савецкага Саюза і Сталіна ён таксама стараўся забыць.

У наступным нумары газеты “Літаратура і мастацтва” ад 11 кастрычніка 1939 года з’явіўся артыкул крытыка Рыгора Бярозкіна (1918 — 1981) “Вершы Сяргея Хмары”. Можна меркаваць, што ён атрымаў ад Садоўскага кнігу “Жураўлінным шляхам” ды напісаў на яе вельмі пазітыўную рэцэнзію. “Здзіўляешся блізкасці тэм і матываў вершаў Сяргея Хмары да матываў і тэм дарэвалюцыйных вершаў Купалы і Коласа”, — піша Бярозкін і працягвае: “Сяргей Хмара — прамы наследнік лепшых дэмакратычных традыцый беларускай літаратуры”.

Рыгор Бярозкін малюе партрэт Хмары, як народнага змагара, якога за вершы катавалі і кідалі ў турму.

Пасля гэтага “ЛіМ” ужо больш не пісаў пра С. Хмару (намі не быў адшуканы толькі № 36 за 1939 г., у якім яшчэ тэарэтычна магла быць згадка) — ён быў арыштаваны савецкімі карнымі органамі. Анатолю Іверсу пашанцавала больш — ён працягваў працаваць у “раёнцы”, пра яго пісаў “ЛіМ”. 15 лістапада 1939 года адбылася сустрэча пісьменнікаў Заходняй Беларусі са студэнтамі і выкладчыкамі Мінскага педінстытута. Там быў і Іверс, які чытаў свае творы. Сярод слухачоў быў Якуб Колас.

У ліпені 1940-га Анатоль Іверс трапіў у Мінск на курсы пачынаючых паэтаў і пісьменнікаў, якія арганізаваў Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР. Ён слухаў лекцыі Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Міхася Лынькова, Кузьмы Чорнага, наведваў тэатр, кінатэатр, музей. 3 жніўня 1940 года “Літаратура і мастацтва” друкуе фота групы курсантаў курсаў, а сярод іх і Іверса. Побач быў надрукаваны яго верш “Вясенні парыў”, напісаны ў Слоніме ў 1938 годзе.

У жніўні 1940-га Іверс разам з Міколам Засімам і яшчэ некалькімі курсантамі трапіў на экскурсію ў Маскву. Наведаў маўзалей Леніна, музеі, выставы, Трэцьякоўскую галерэю, цырк, планетарый і метро. А ў верасні таго ж года ён быў ужо ў Беластоку, паўдзельнічаў у сустрэчы са студэнтамі мясцовай педвучэльні. Пра яе таксама пісала газета “Літаратура і мастацтва”.

**Сяргей Ёрш**



Курсы-канферэнцыя маладых пісьменнікаў пры ССП БССР. Курсанты—маладыя пісьменнікі заходніх абласцей БССР (злева направа): таварышы **Ш. Бурштэйн** (гор. Беласток), **М. Засім** (гор. Пружаны), **А. Іверс** (гор. Слонім), **Ю. Равіч** (гор. Беласток), **Г. Новік** (м. Куранец, Вілейскай вобласці), **П. Біноцкі** (г. Беласток).
Фота І. Капліскага.

*In memoriam*

# *Леанід Рапапорт*



28 чэрвеня споўніцца год, як не стала Леаніда Рапапорта, кіраўніка прадпрыемства “Бабруйсккіно”, вядомага і паважанага ў Бабруйску чалавека. Ён нарадзіўся ў Слоніме 21 ліпеня 1963 года. З залатым медалём скончыў СШ № 2. Неяк успамінаў, што калі ў Слоніме здымалі мастацкі фільм “Паланэз Агінскага”, яго не выбралі з ліку дзяцей-кандыдатаў на эпізадычную ролю. Было крыўдна, ён кіно любіў і звязаў з ім сваё жыццё. У 1985 годзе скончыў інжынерна-фізічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута па спецыяльнасці “Кінаапаратура”. Па размеркаванні Леаніда Рапапорта адправілі ў Бабруйск. Там ён стварыў сям’ю, зрабіў паспяховую кар’еру. У апошнія гады жыцця цяжка хварэў. Нашага земляка пахавалі на бабруйскіх яўрэйскіх могілках.

**С.Ё.**

# Жыровічы
## (урывак з кнігі М. Балінскага)


1132.

STAROŻYTNA POLSKA
pod względem
HISTORYCZNYM, JEOGRAFICZNYM
i statystycznym
OPISANA.
przez
MICHAŁA BALIŃSKIEGO
i
TYMOTEUSZA LIPIŃSKIEGO

TOM III.

WARSZAWA,
Nakład i druk S. ORGELBRANDA Księgarza
PRZY ULICY MIODOWEJ Nr. 496.
1846.

У 1846 годзе ў Варшаве пабачыў свет трэці том кнігі пад назваю "Starozytna Polska pod wzgledem historycznym, jeograficznym i statystycznym opisana", падрыхтаваны ураджэнцам Полацкага павета Міхалам Балінскім (1794-1864). Адметнасць гэтага выдання ў тым, што яно было прысвечана гарадам і мястэчкам Беларусі, апісаным у кантэксце прыналежнасці тых да польскай прасторы.

Нягледзячы на тое, што для Балінскага гэтая тэрыторыя Польшча, а мясцовая "славянская" мова не больш як "мяшанка польскіх і рускіх словаў", яго чатырохтомны твор, напісаны ў супрацы з Тыматэўшам Ліпінскім, уяўляе цікавасць, як для навукоўцаў, так і проста зацікаўленых гісторыяй. Менавіта адсюль "растуць ногі" шматлікіх "фактаў", якія доўгі час нават не аспрэчваліся, прыкладу, далетапісная гісторыя Слоніма, якая Балінскім пачыналася 1040 (1044) годам. Ён нават прывёў у якасці аўтарытэту твор Длугаша, у якога пад гэтым годам, насамрэч, ніякіх згадак пра Слонім няма. У той жа час спасылкі на


*Міхал Балінскі (1794-1864)*

прывілеі часоў магдэбургскага Слоніма Балінскі падае слушна.

У яго кнізе таксама шмат цікавых фактаў пра Жыровічы, якія падаюцца ў ліку важнейшых хрысціянскіх цэнтраў былой Рэчы Паспалітай: "Жыровічы настолькі былі вядомыя ў свой час у Літве, як Чэнстахова ў Польшчы". У якасці галоўнага аргумента для Балінскага выступаюць шматлікія наведванні мястэчка каралямі і нададзеныя імі прывілеі.

Апісанні Балінскага носяць мастацкі характар. Аўтар выкарыстоўвае шматлікія ўрыўкі з разнастайных песень, вытрымкі з дакументаў.

Дадзеныя Балінскага сёння могуць успрымацца у гістарыяграфічным зрэзе, як прыклад уяўленняў пра Слонімшчыну сярэдзіны XIX стагоддзя, якое адклала свой адбітак на даследчыкаў нават у XX стагоддзі. У той жа час яны змяшчаюць багаты фактаграфічны матэрыял, які, аднак, у многіх выпадках патрабуе праверкі і ўдакладнення.

**Васіль Герасімчык**

У двух мілях ад Слоніма, на пясчанай даліне паміж узгоркамі, пры ляску пад назваю Вікня, вядомы на ўсю Літву касцёл з манастыром базыльянаў. У даўнія часы была тут шырокая пушча, у якой, згодна мясцоваму паданню, пастухі знайшлі ў 1480 годзе на грушцы маленькі абраз Багародзіцы, на тым, уласна, месцы, сёння ў храме знаходзіцца прысвечаны ёй алтар. Пабожны ўладар гэтай ваколіцы, Аляксандар Солтан, які атрымаў уладанні як узнагароду ад Казіміра IV, неадкладна паспяшаўся пабудаваць тут драўляны храм, які аздобіў і надзяліў слонімскі маршалак Ян Солтан, а пасля таго, як той згарэў, пачаў будаваць новую вялікую мураваную царкву каля 1560 года. Паданне засталося: падчас пажару святы абразок, які знік з алтара, цудоўна перанёсся на вялікі гранітны камень, што тырчаў на схіле бліжэйшага ўзгорку. Узяўшы яго адтуль, мясцовыя капланы, перанеслі разам з працэсіяю ў часовую пабудову, збудаваную з гэтай мэтаю, а пасля ў капліцу, што была пазней узведзена. Рэлігійная рэформа, якая пашыралася ў гэтым краі, роўна як і ва ўсёй Літве пад канец XVI стагоддзя, спыніла на нейкі час ушанаванне цудатворнага абраза, касцёльныя сродкі патрапілі ў чужыя рукі. Толькі смаленскі кашталян Ян Мялешка разам са сваёю жонкаю Ганнаю Фурсаўнай, уводзячы базыльянскі ордэн у Жыровічы 29 кастрычніка 1613 года, зноў ажывіў гэта месца, якое праславілася на ўсю Літву ласкамі Багародзіцы для тых, якія да яе з просьбаю аб дапамозе і апецы прыходзяць. Вельмі моцна сваім запалам і вучонасцю прыцягненню вялікага наплыву паломнікаў, выконваючы выдатна свае абавязкі ў Жыровічах, садзейнічаў Ёсафат Кунцэвіч, які з часам стаў полацкім арцыбіскупам. Знакамітасць



Жыровічы. Малюнак Н. Орды. 1876 год

цудоўнага абразу ўсё больш памажалася, а шматлікія дабрадзеі адорвалі касцёл ахвяраваннямі. Але ўсіх пераўзышоў шчодрасцю сваіх дарункаў вядомы ў нашай гісторыі канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, надаючы базыльянам шырокія пляцы, вёскі і сады, царква цяпер забяспечана багатым абсталяваннем, сярод якога між іншых рэчаў, падараваў вялізны звон. У першых днях студзеня 1644 года Уладыслаў IV разам з жонкаю наведаў Жыровічы, спецыяльна з’ехаўшы з Вільні, два дні правёў на набажэнстве, і пакінуў вялікія ахвяры на алтары Панны Марыі. Ян Казімір таксама ў студзені 1651 года пабожную пілігрымку здзейсніў да Жыровіч. Падчас няшчасцяў для ўсяго краю часу таго караля, гэтае месца разам з ваколіцаю было знішчана ў 1655 годзе, і, напэўна, было спалена. У сувязі з такой вялікай катастрофай, сейм 1661 года вызваліў мястэчка ад усіх вайсковых службаў назаўсёды, а ад падаткаў на чатыры гады; у 1667 годзе зноў на чатыры гады ад падаткаў.

Базыльяне з пачаткам спакою ў краі, адбудавалі і аднавілі шматлікімі набажэнствамі паселішча, якое Ян III 27 красавіка 1688 года разам са сваім сынам Якубам, пасля іх Аўгуст II, ажывілі сваімі наведваннямі.

19 верасня 1730 года адбылася вялікая ўрачыстасць – каранацыя цудатворнага абразу, яе завяршыў Атаназі Шэптыцкі – метрапаліт кіеўскі і галіцкі уніяцкага абраду, у таварыстве ўладзімірскага біскупа Тэафіла Гадэбскага і пінскага біскупа Ежы Булгака (гэтыя ўрачыстасці апісаў жыровіцкі базыльянскі прапаведнік ксёндз Тэафіл Янткевіч ў працы Aquilla grandis magnarum alarum). Дзве кароны, зробленыя намаганнямі ксяндза Бенедыкта Трулевіча, пракуратара ордэну, зробленыя ў Рыме і благаслаўлёныя Бенедыктам XIII, прывёз Геранім Радзівіл, як пасол апостальскай сталіцы ў гэтым мерапрыемстве; кошты па каранацыі ў асноўным панесла яго матка Ганна з Сангушкаў, удава канцлера Вялікага княства Літоўскага Караля Радзівіла, якая загадала аздобіць кароны каштоўнымі камянямі. Адтуль на добра арганізаванае жыровіцкае набажэнства, пачало збірацца шмат паломнікаў з усёй Літвы да святыні Панны Марыі. Базыльяне адкрылі школы і заклалі друкарню, у якой выходзілі агульнавядомыя жыровіцкія кантычкі, паўсюдна ўжываныя ў Літве. Базыльянін Скальскі склаў вядомую набожную песню, якая пачыналася словамі:

*Жыровічы крыніцы ласкі, на ўвесь свет праліліся,*

*Калі Марыя, як лілія, грушцы паказалася,*

Якая, будучы на вуснах ўсяго народу, штодзённа нагадвае яму гісторыю з’яўлення ў гэтым месцы цудадзейнага абразу, і пашырэнне яго ўшанавання ва ўсім краі.

*Жыровічы настолькі былі вядомыя ў свой час у Літве, як Чэнстахова ў Польшчы, сама песня, узгаданая вышэй, аб гэтым сведчыць наступнымі словамі:*

*Ян Сабескі*
*Кароль наш лехскі,*
*Вотум свой аддае,*
*Што гэта новая,*
*Чэнстахова,*
*Абраза прызнае.*

Кароль Станіслаў Аўгуст, наведваючы Жыровічы ў 1784 годзе, урачыста быў прыняты ордэнскім таварыствам, якое яму ва ўсіх рысах паказвала мясцовыя асаблівасці.

У галоўным касцёле ці мураванай царкве, пад назваю Успення Прасвятой Багародзіцы, не ў вялікім алтары, але па левым яго баку ў дадатковым, багата аздобленым, змешчаны цудадзейны абраз Панны Марыі. Гэта малая яе прадаўгаватая выява, на камені, і, як сцвярджаюць, на зрэзе яшмы, два дзюймы ў шырыню і два з паловай у даўжыню, і за шклом ў срэбранай пліце і пазалочаным абрамленні.

Апрача гэтага ў Жыровічах знаходзяцца тры каплічкі, першая з якіх мураваная, камень, які ахоплівае, дзе па выгаранню першага касцёла павінен быў з’явіцца цудадзейны абраз. Гэта граніт, у даўжыню каля трох локцяў , у вышыню 2, і паўтары шырынёю, змешчаны за вялікім алтарам.

Называюць яго стопкаю Найяснейшай Панны, бо на ім лічаць сляды рукі і сядзення Багародзіцы; яго дробкамі пабожныя паломнікі заўсёды дзеляцца, ушаноўваючы яе за эфектыўныя лекі супраць шматлікіх хваробаў; у самой паласці утрымліваецца свянцоная вада. Другая капліца таксама мураваная, называецца Калварыя, і ў ёй палова ўнутранай прасторы занятая лесвіцаю, па якой паломнікі ідуць на каленях да алтару, і тут падчас вялікага пасту ў пятніцу адбываецца ўрачыстае набажэнства.

***(Працяг у наступным нумары)***

# ВЯЛІКІЯ СЛОНІМСКІЯ ПАЖАРЫ




*Гарадская пажарная каманда ў час Першай сусветнай вайны. З фондаў Слонімскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея імя І.І. Стаброўскага*

Агонь заўжды выклікаў у чалавека страх перад яго сілаю. Аднак, менавіта дзякуючы прыручэнню агню, чалавек здолеў дасягнуць высокай ступені развіцця матэрыяльнай культуры, пабудаваў вялікія гарады. У той жа час, пры недастатковай пільнай увазе, агонь вынішчаў створанае на працягу дзесяцігоддзяў за лічаныя гадзіны. Так у 64 годзе згарэў Рым, у 1666 годзе адбыўся Вялікі лонданскі пажар, які знішчыў 13000 дамоў і 87 цэркваў. Быў і ў гісторыі Слоніма перыяд вялікіх пажараў, калі горад амаль цалкам выгараў. Прыходзіцца ён на XIX стагоддзе, калі цягам некалькіх дзесяцігоддзяў жыхары горада пабачылі тры жудасныя па сваіх маштабах і наступствах пажары (1848, 1875, 1881), падчас якіх цэлыя гарадскія кварталы ператвараліся ў пустэчу.

У выніку пажара 1848 года Слонім амаль цалкам выгарэў. Толькі ў 1857 годзе былі пераадолены яго наступствы, а ў горадзе налічвалася 746 драўляных дамоў (у 1843 было 698). Паступова заможныя слонімцы пачалі ўжываць цэглу і камень у якасці матэрыяла для сваіх пабудоў. У 1857 годзе у горадзе было ўжо 67 каменных дамоў, што амаль у чатыры разы перавышала іх колькасць у 1843 годзе.

Горад вельмі хутка рос. Па дадзеных М. Мілакоўскага, аўтара кнігі 1891 года «Описание города Слонима», у 1857 годзе тут пражывала 9525 чалавек, а ў 1880 іх налічвалася 13457. Рост насельніцтва выклікаў паскарэнне хаатычнай забудовы горада драўлянымі дамкамі, прыціснутымі адзін да аднаго, абмежаваных вузкімі вулачкамі. У такой сітуацыі актуальнай была праблема супрацьпажарнага стану горада. Аднак гарадскія ўлады не лічылі яе важнай. Нават пажар 1875 года, падчас якога выгарэла ўся Берагавая вуліца з больш чым 100 пабудовамі, не выклікаў зменаў у адносінах кіраўніцтва і жыхароў горада да сваёй бяспекі. І расплата не заставіла сябе доўга чакаць.

Самы вялікі ў гісторыі Слоніма пажар адбыўся 25 мая 1881 года. Ён пачаўся ў 4 гадзіны раніцы ў драўляным збожжабаку паблізу хлебапякарні па Жыровіцкай вуліцы. Напачатку пажар не ўяўляў вялікай складанасці. Аднак узмацніўся вецер, дзякуючы якому агонь перакінуўся ў розныя бакі. Цесна размешчаныя дамы выгаралі за лічаныя хвіліны. У адным з іх зажыва згарэў мужчына, а яшчэ адзін будынак заваліў трох жанчын.

Горад гарэў увесь дзень. Будынкі сямі вуліц былі вынішчаны цалкам, а яшчэ чатырох часткова. Да вечара ад драўлянай забудовы слонімскага цэнтра засталося адно папялішча. Гандлёвая плошча, вуліцы Школьны двор, Гандлёвая, Спаская, Паліцэйская, Маставая, Рыбацкая і Татарская патрабавалі



*Святкаванне дзесяцігоддзя пажарнай каманды ў 1907 годзе. З фондаў Слонімскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея імя І.І. Стаброўскага*

суцэльнага аднаўлення, толькі па некалькі дамоў засталося на Ружанскай, Жыровіцкай, Студэнцкай і Замкавай.

Усяго згарэла 576 жылых дамоў, больш паловы ўсіх драўляных дамоў горада. Страты гараджан склалі 845658 руб. Аднак новай адзнакай часу стала тое, што частка сродкаў была кампенсавана за кошт страхавых таварыстваў. Яны выплацілі гараджанам 150495 руб. Прычым страхаванне было найбольш распаўсюджана сярод яўрэйскага насельніцтва горада. Адзначаючы гэтую акалічнасць, М. Мілакоўскі пісаў: «У поце твару, зарабляючы грош медны, габрэй тым не менш страхуе свой домік, сябе і для дзяцей капіталы на пасаг, – страхуе на дробныя сумы, жыве ўпрогаладзь і ўсё ж не адстае ад страхоўкі».

Акрамя жылых дамоў агонь знішчыў шэраг грамадскіх пабудоў. Сярод іх – акцызнае ўпраўленне, упраўленне воінскага загадчыка, казначэйства, яўрэйская сінагога і 8 малітоўных дамоў, татарская мячэць, быў моцна пашкоджаны адзін з каталіцкіх жаночых кляштараў. Нягледзячы на тое, што пабудовы паабапал Гандлёвай вуліцы згарэлі, гандлёвыя рады са 142 каменнымі крытымі лаўкамі, якія размяшчаліся ў цэнтры вуліцы засталіся некранутымі. У далейшым гэта стала адным з фактараў хуткага аднаўлення горада. У агні загінуў архіў гарадской управы, кнігі запісаў, ухвал і дакументаў яўрэйскай гміны за 400 гадоў.

Разбурэнні маглі быць значна большыя, аднак дапамогу гораду аказала альбярцінская супрацьпажарная каманда. Яна дзейнічала пры суконнай фабрыцы памешчыка Пуслоўскага ў Альбярціне і мела спецыяльныя прыстасаванні для барацьбы з агнём.

Пажар 1881 года знішчыў 2/3 пабудоў цэнтра Слоніма і выклікаў кардынальную яго перабудову ў адпаведнасці з новым планам. Пачалося інтэнсіўнае




*Пажар 22 траўня 1918 года. З фондаў Слонімскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея імя І.І. Стаброўскага*

будаўніцтва каменных дамоў. Калі ў 1878 годзе іх налічвалася толькі 102, то ў 1891 годзе ўжо 324. Гэтаму садзейнічала з'яўленне ў горадзе трох цагляных заводаў .Тэмпы будаўніцтва драўляных дамоў зменшыліся. У 1878 годзе ў Слоніме было 1105 драўляных дамоў. Аднак нават праз дзесяць год пасля пажару гэта лічба не была дасягнута і ў Слоніме іх налічвалася ўсяго 976, прычым у асноўным яны размяшчаліся на ўскраінах горада і на правабярэжжы Шчары.

Дрэнны стан супрацьпажарнай бяспекі выклікаў неабходнасць распрацоўкі шэрагу мерапрыемстваў у дадзеным накірунку. Гарадская дума прыняла абавязковую да выканання пастанову, згодна з якой усе слонімскія рамізнікі і вознікі павінны былі дастаўляць ваду на пажар, за што атрымоўвалі з гарадскіх сродкаў па 20 капеек за бочку вады (у той час сярэдняя заработная плата наёмнага працоўнага на суконнай фабрыцы Пуслоўскага складала 20-60 капеек за дзень). З мэтаю далучэння шырокіх колаў грамадства да барацьбы супраць пажараў была зроблена спроба заснавання ў Слоніме Вольнага пажарнага таварыства. Аднак прыняты гарадскою думаю статут не быў зацверджаны з-за боязі мясцовых прадстаўнікоў царскай улады элементаў грамадзянскай супольнасці. Выгарэлыя вуліцы былі пашыраны ў сярэднім да 12,8-15,6 м (6-12 сажняў). Сярод іх вылучаліся сваім прасторам Маставая (42,7 м або 20 сажняў) і Гандлёвая (64 м або 30 сажняў) вуліцы ,а таксама Гандлёвая плошча шырынёю ў 106,7 м (50 сажняў).

Прынятыя меры прывялі да змяншэння наступстваў узнікаючых пажараў і садзейнічалі іх лакалізацыі ў самым пачатку. А ў 1897 годзе ў Слоніме была арганізавана добраахвотная пажарная служба, дзесяцігоддзе дзейнасці якой урачыста адзначылі ў 1907 годзе.

Пажары змянялі не толькі выгляд слонімскіх вуліц, але і адлюстроўваліся ў свядомасці гараджан, якія сталі больш увагі надзяляць бяспецы і ахайна адносіцца да ўласнага жылля. Дзякуючы такім зменам у псіхалогіі жыхара Слоніма ўдалося захаваць цэнтр горада нават падчас першай сусветнай вайны, аднак дадзеная асаблівасць не даты- чыць Замосця, амаль суцэльна драўлянага, знішчанага ў вераснёўскім пажары 1915 года ў час артылерыйскага бою паміж нямецкімі і адступаючымі рускімі войскамі, і пажары 22 траўня 1918 года.

**Васіль Герасімчык**

## *Каляндар*

# Чэрвень



**1 чэрвеня** 1911 года (у кнізе “Памяць” — 18 чэрвеня) ў Чамярах нарадзіўся Якуб Міско, літаратар, журналіст, крытык, удзельнік вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 1930-я, заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Памёр 23 кастрычніка 1981 г., пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.



**4 чэрвеня** 1930 года ў Мяльканавічах нарадзіўся Уладзімір Сакалоўскі, вядомы беларускі літаратуразнаўца, перакладчык. Памёр у Мінску 20 чэрвеня 2013 г.

**15 чэрвеня** 1967 года ў Маскве на 72-м годзе жыцця памёр Мікалай Уласік, генерал-лейтэнант, ураджэнец вёскі Бабынічы Слонімскага раёна. Быў начальнікам аховы савецкага кіраўніка Іосіфа Сталіна ў 1931-1952 гг. Пахаваны на Новых Данскіх могілках расійскай сталіцы.



**17 чэрвеня** 2006 г. у Слоніме памёр Іван Сяргейчык, пісьменнік, паэт, ветэран вайны ў Афганістане, кіраваў літаратурным аб’яднаннем пры газеце “Слонімскі веснік”. Пахаваны на слонімскіх гарадскіх могілках па вуліцы Чырвоных партызан. Нарадзіўся 17 верасня 1949 года на Зэльвеншчыне.



**18 чэрвеня** 1806 года ў маёнтку Парэчча на Слонімшчыне нарадзіўся Міхал Валовіч, герой вызваленчай барацьбы, паўстанцкі камандзір. Пакараны смерцю рускімі царскімі ўладамі 2 жніўня 1833 г. у Гродне. На могілках у Парэччы ўсталяваны помнік на сімвалічнай магіле Валовіча.

**21 чэрвеня** 1873 года памёр Вацлаў Пелікан, вядомы медык, навуковец, ураджэнец Слоніма. Пахаваны ў Барысаўскім раёне.



**21 чэрвеня** 1957 г. у Слоніме нарадзіўся Уладзімір Раманоўскі, вядомы беларускі спартсмен, алімпійскі чэмпіён 1976 года ў веславанні на байдарках. Жыў у Мінску. Памёр 13 траўня 2013 года.



**25 чэрвеня** 1884 года ў Жыровічах нарадзіўся Яўген Хлябцэвіч, бібліёграф, літаратуразнаўца, педагог. У 1912 годзе быў адным з арганізатараў беларускага краязнаўчага таварыства пры Пецярбургскім універсітэце. Памёр 20 кастрычніка 1953 года ў Маскве.



**25 чэрвеня** 1652 года Жыровічы атрымалі ад караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя ВКЛ Яна Казіміра магдэбургскія (майдэборскія) правы. У той час цяперашняя вёска была горадам.

**25 чэрвеня** 1941 года Слонім захоплены нямецкімі войскамі. Акупацыя працягвалася больш за тры гады. У горадзе і раёне фашыстамі было знішчана каля 42 тысяч мірных жыхароў.

**28 чэрвеня** 1984 года ў сувязі з перасяленнем жыхароў афіцыйна былі ліквідаваныя хутары Альбітава Кастровіцкага сельсавета, Гарбачы і Ганькі Васілевіцкага с/с, Крывая Жыровіцкага с/с.

**29 чэрвеня** 1942 года немцамі пачалася ліквідацыя Слонімскага гета, дзе да 15 ліпеня было знішчана 9000 яўрэяў.

**29 чэрвеня** 1947 года ў Слоніме ў сям’і вайскоўца нарадзіўся Барыс Зяленскі, беларускі пісьменнік-фантаст, перакладчык. Жыў у Мінску. Памёр 1 снежня 2004 г.



**30 чэрвеня** 1812 года ў Слонім пакінула руская армія Баграціёна, неўзабаве ў горад увайшлі саксонскія і аўстрыйскія войскі са складу арміі Напалеона.

***

*Рэдакцыя бюлетэня “Слонімскі край” заклікае да супрацоўніцтва краязнаўцаў, даследчыкаў гісторыі Слонімшчыны. Чакаем вашых матэрыялаў. Кожны слонімец, дзе б ён не жыў, можа падзяліцца на старонках нашага выдання сваімі разважаннямі, успамінамі пра сваю малую радзіму.*

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры передруку спасылка на СК абавязковая
Наклад 100 асобнікаў

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык (рэдактар нумару)
Сяргей Ёрш
Сяргей Чыгрын